# ЛАБІРЫНТ



*№17, люты 2012*

*Студэнцкая гістарычная суполка "Аматары Беларускай Гісторыі імя В. Ю. Ластоўскага"*

## Гістарычная памяць



"Ідэнтычнасць, памяць, спадчына — тры ключавых словы сучаснай свядомасці, тры абліччы новага кантынента Культуры", — так ёміста ахарактарызаваў сітуацыю ў сучасных сацыягуманітарных ведах знакаміты французскі гісторык, аўтар канцэпцыі "месцаў памяці" П'ер Нара. І, сапраўды, зараз ідэнтычнасць і памяць сталі галоўнымі тэмамі гуманітарнай веды. Гэтыя словы вядуць рэй і ў сучасных дыскусіях пра стан нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Мабыць, толькі памяць можа скласці годную канкурэнцыю тэрміну "ідэнтычнасць" па ступені папулярнасці ў сучаснай мове сацыяльных навук. Сведчаннем таму служаць такія метафары, як "бум памяці" ці "сусветная імпрэза памяці". Ізноў жа, імкліва нарастае колькасць адмысловых працаў, засноўваюцца спецыялізаваныя выданні, прысвечаныя праблематыцы памяці ("Memory Studies" ці "Time&Society"). У цэлым, можна казаць пра з'яўленне ў канцы XX ст. адмысловага дыскурсу гістарычнай памяці ў кантэксце нацыянальнай ідэнтычнасці. Бо Страт вылучае два галоўныя чыннікі фармавання дадзенага дыскурсу:

1) канец халоднай вайны прывёў да сацыяльнай і культурнай фрагментацыі, што ў сваю чаргу выклікала эрозію інтэрпрэтатыўных схем (напрыклад, страціла сваю актуальнасць і значнасць рэпрэзентацыя Савецкага Саюза як "імперыі зла") і падняло праблему калектыўнай памяці;

2) узнікненне новых правілаў навуковай веды, індыкатарамі якіх сталі такія канцэпты, як "канструяванне" і "постмадэрн", адмаўленне абсалютнага статусу канцэпцый "праўды" і "рэальнасці".

Але, як і ў выпадку ідэнтычнасці, інтэрпрэтацыі памяці таксама непасрэдна звязаныя з сацыякультурнымі зменамі ў сучасным грамадстве. Працяглы час памяць тлумачылася як філасофская праблема, якая аналізуе асаблівасці індывідуальнай свядомасці. Такая традыцыя існавала ад Платона да Анры Бергсана. Толькі ў канцы XIX ст. з'яўляюцца спробы вывесці інтэрпрэтацыі памяці на калектыўны ўзровень, і тут яна цесна ўвязваецца з праблематыкай нацыянальнай ідэнтычнасці. Гаворка ідзе пра першапраходніцкую працу Эрнста Рэнана "Што такое нацыя?", якая не страціла сваёй актуальнасці і на дадзены момант.

У трактоўцы Рэнана памяць з'яўляецца адным асноўных элементаў нацыі: "Нацыя — гэта душа, духоўны прынцып. Дзве рэчы, якія з'яўляюцца ў сутнасці адною, складаюць гэтую душу, гэты духоўны прынцып. Адна — у мінулым, іншая — у будучым. Адна — гэта агульнае ўладанне багатай спадчынай успамінаў, іншая — агульная дамова, жаданне жыць разам, працягваць разам карыстацца пазасталай непадзеленай спадчынай". Пры гэтым асновай нацыянальнай ідэі становіцца гераічнае мінулае. Такім чынам, зараз усё ж дамінуе падыход да памяці як да сацыяльнай з’явы, што будуецца грамадствам і ўплывае непасрэдным чынам на сацыякультурныя працэсы.

# Беларусь зноў стане краінай замкаў?

Урад прыняў праграму «Замкі Беларусі» коштам $15,5 мільёна.

Упершыню такая праграма зацверджаная на дзяржаўным узроўні. «Замкі Беларусі» распрацавала Міністэрства культуры.

Калісьці ў Беларусі было больш за сто замкаў.

На жаль, захаваныя абарончыя збудаванні можна пералічыць па пальцах. Што не зруйнавалі войны, дабіваў час і народная гаспадарка.

У спіс праграмы планавалі ўключыць 16 аб'ектаў. Але ў выніку ўвайшло 38 — улічылі просьбы абласнога ды раённага чынавенства.

На аднаўленне замкаў плануюць выдаткаваць каля 131 мільярда рублёў цягам 2012—2018.

Праграма прадугледжвае аднаўленне такіх легендарных збудаванняў, як Стары замак у Гродне (на яго выдаткоўваецца 37 млрд 200 млн рублёў), замкі ў Лідзе і Любчы, Сапегаўскі палац у Ружанах.



*Макет Старога замка ў Гродне*

Гродна займае другое месца пасля Мінска па аб'ёме ўкладанняў. Найменшы кавалак бюджэту (1,5 млн рублёў) прызначаны Слуцку — на добраўпарадкаванне тэрыторыі гарадзішча IX—XIII ст. Прычым выдзяляць сродкі плануюць у 2017—18 гадах. Будзем спадзявацца, інфляцыя іх не зжарэ аж настолькі, каб не хапіла заплаціць чалавеку, які абкосіць гарадзішча.

Возьмуцца і за прылеглыя да замкаў тэрыторыі. У Міры адновяць рэгулярны італьянскі парк.

Праўда, звестак пра яго выгляд не захавалася. А заадно рэстаўруюць стаў, дамбу, агароджу і нават мемарыял на месцы знішчэння мірных жыхароў нямецкімі фашыстамі.



*У Крэве адновяць княскую вежу*

У Камянецкай вежы плануецца замяніць дах — на гэта з мясцовага бюджэту выдаткавана 51,8 млн.

Рамантаваны шматкроць помнік ужо выклікае кпіны турыстаў шклопакетамі ў байніцах. Затое ў Крэўскім замку плануюць аднавіць паўночную, княскую вежу, у якой падпісвалася Унія. На Крэва выдаткуюць 2 млрд 500 млн цягам 2012—15 гадоў.

Замкі ў Навагрудку, Крэве, Гальшанах, Быхаве, Геранёнах, Смалянах і Тэльмане чакае кансервацыя з «частковай рэстаўрацыяй».

Самыя цэлыя іх фрагменты прыстасуюць пад музейныя экспазіцыі. Як, напрыклад, частку замка Сапегаў у Быхаве, дзе была мэблевая фабрыка і вайсковая часць.

Бюджэтныя сродкі абудзяць адвечны канфлікт між рэстаўратарамі, гатовымі бясконца ўдасканальваць праекты, і мясцовай уладай, якая плануе выкарыстаць грошы на навядзенне парадку.

Так, праектная група Беларускага камітэта ICOMOS на чале з Ігарам Раханскім настойвае на навуковых даследаваннях у Гальшанскім замку. Чынавенства ж плануе абмежавацца рамонтам.

Парк з рэшткамі сцяны замка Вішнявецкіх у вёсцы Тэльман пад Брагінам збіраюцца парадкаваць за французскія грошы:

25 млн рублёў выдаткоўвае грамадская арганізацыя «Спадчына без межаў» і асацыяцыя «Валь дэ Луар». Цяперашні палескі аграгарадок імя нямецкага камуніста — гэта колішняя вёска Двор-Гарадзішча.

Там стаяў Брагінскі замак, цэнтр вялізарных латыфундыяў Вішнявецкіх.

Некалі Адам Вішнявецкі, руплівец праваслаўя ў Рэчы Паспалітай, прытуліў тут Лжэдзмітрыя I, які ўпершыню прызнаўся менавіта яму, нібы ён — сын Івана Грознага. У 1648 годзе жыхары

Брагіна адчынілі браму ардзе Хмяльніцкага і за здраду замак з мястэчкам быў разбураны. На ягоным месцы ўзнік палац з фальваркам, якім валодаў і Міхал Вішнявецкі — кароль польскі і вялікі князь літоўскі.

Будзе што расказаць турыстам, калі, канечне, знойдуцца смелыя. Брагінскі раён — самы забруджаны ў Чарнобыльскай зоне. Радыяцыя тут сягае 20—30 Кюры/км.

Дзевятнаццаць замчышчаў, у тым ліку ў вёсцы Жабер Драгічынскага раёна, Крыўлянах Жабінкаўскага раёна, у Заслаўі і Браславе, запланавана добраўпарадкаваць.



*Палац Сапегаў у Ружанах*

Калі чуеш слова «добраўпарадкаванне», міжволі прыгадваецца замчышча ў Мазыры, на якім прадпрыемства «Мазырдрэў» збудавала пахабны рэкламны церамок. Ці замчышча ў Браславе, дзе панастаўлялі альтанак для аматараў выпіць-закусіць...

На добраўпарадкаванне гарадзішча ў курортным Браславе, дарэчы, выдаткоўваюць 2 млрд 500 млн — утрая болей, чым на полацкі Верхні замак.

На пяці гарадзішчах (у Тураве, Мілаградзе, Глуску, Рыжкавічах і Мінску) запланаваныя работы па музеефікацыі.

Уражвае, што ў адным шэрагу з Мінскім стаіць замчышча ў Рыжкавічах. Так, гэта рэшткі сярэднявечнага Шклова XVI—XVIII ст., дзе быў калісь замак Хадкевічаў, кляштар з касцёлам дамініканцаў, мураваная ўніяцкая Петрапаўлаўская царква... Але Рыжкавічы пакуль не ўнесеныя ў ніводны даведнік.

На музеефікацыю археалагічнага комплексу ў вёсцы Рыжкавічы Шклоўскага раёна, у якой жыве Галіна Радзівонаўна Лукашэнка, запланавана выдаткаваць 40 млн з бюджэту раёна і вобласці.

Мінск атрымае найбольшую частку сродкаў — 62 млрд 573 млн рублёў. План аднаўлення Мінскага замчышча, распрацаваны «Мінскпраектам», прадугледжвае пабудову новай праваслаўнай царквы на падмурках храма XII ст. Той храм — адна з найвялікшых таямніцаў старажытнага Менска: ён так і не быў дабудаваны, а пасля, сведчаць археолагі, ператварыўся ў паганскі некропаль. Ніякіх звестак пра тое, як мог выглядаць храм, няма. Калі паставяць фальсіфікат на аўтэнтычных падмурках, чаму б не панабудоўваць новых замкаў і на ўсіх пустых гарадзішчах?

Мінскае замчышча — сэрца ўсёй Беларусі, пачатак пачаткаў.

Дыскусіі вакол праекта аднаўлення Ніжняга замка ў Вільні расцягнуліся на 100 гадоў. У Беларусі дыскусіяў не было.

Немагчыма без нас

Я б вельмі хацеў, каб замак у Крэве, дзе калісь вырашаўся лёс краёў ад Балтыкі да Чарнамор'я, узняў свае спічастыя муры,

каб і пад Брагінам, у вёсцы з вернутым спрадвечным імем Двор-Гарадзішча, паўстаў цікавы асветны асяродак, каб тлумы турыстаў захапляліся Шклоўшчынай і каб старажытны Мінск урэшце зажыў уласным паважным людскім жыццём...

Але гэта немагчыма без удзелу нас усіх, каму гэта неабыякава.

**Артыкул:** *Сяргей Харэўскі, Наша Ніва.*



***1020*** *гадоў з часу заснавання Беларускай праваслаўнай царквы, аб'яднанне праваслоўных епархій* ***(992)***

# Паходжанне беларусаў

Славяне шырока рассяляліся на тэрыторыі нашага края ў раннім сярэднявеччы. У пачатку ранняга сярэднявечча, у прыватнасці ў VI - VII

ст. н. э., кампактна, суцэльным масівам яны жылі толькі ў самых паўднёвых раёнах сучаснай тэрыторыі Беларусі, у басейне р. Прыпяць, пераважна на поўдзень ад яе. Славянскімі з'яуляюцда археалагічныя помнікі гэтага часу - Хатомель, Сямурадцы, Хільчыцы, Петрыкаў. Асноўным тыпам славянскіх пасяленняў былі селішчы (неўмацаваньга пасяленні). Звычайна яны размяшчаліся групамі (па 3 - 4 у адной групе). Характэрны тып жытла славян - паўзямлянка. У адньгм з яе вуглоў, часцей за ўсё процілеглым ад уваходу, знаходзілася печ. Печы мелі прамавугольную або круглую форму. У кераміцы пераважалі слабапрафіляваныя гаршкі. Колер гаршкоў - карычневы. На іх звычайна не было арнаменту. У славян панаваў абрад трупаспалення. Крэмацыя адбывалася па-за межамі магільнікаў. Попел змяшчалі ў бескурганных магілах або ў невысокіх акруглай формы курганах, вакол якіх выкопвалі ровікі.



Славяне і балты на тэрыторыі Беларусі напярэдадні ўтварэння дзяржавы.

З VI - VII стст. н.э. славяне пачынаюць пранікаць на поўнач - у балцкі арэал. Аб гэтым сведчаць славянскія культурныя элементы, якія знаходзяць у старажытнасцях тьгау Калочын - Банцараўшчына. У балцкім арэале ў гэты час з'яўляюцца паўзямлянкі з тыповым славянскім інтэр'ерам. Паўзямлянкі з печамі-каменкамі ў адным з вуглоў выяўлены ў археалагічньгх помніках Шчаткава ў ніжнім цячэнні р.Бярэзіна, Тайманава ў магілёўскім Падняпроўі, Гарадзішча, Дзядзілавічы, Рэвячкі на Міншчыне. У балтаў ачаг знаходзіўся ў цэнтры жытла. Да славянскіх культурных элементаў адносяцца і каменныя жорны, якія знойдзены ў археалагічных помніках Гарадзішча, Дзядзілавічы. Балцкае насельніцтва карысталася каменнымі зерняцёркамі.

Масавае рассяленне славян у балцкім арэале на тэрыторыі Беларусі адбываецца ў VIII - IX стст. н.э. Вялікімі фупамі яны пасяляюцца спачатку ў раёнах, размешчаных на поўначы ад р. Прыпяць. На гэтыя землі славяне прыйшлі з паўднёвага боку басейна р.Прыпяць. Аб гэтым сведчаць аднолькавыя водныя назвы права- і левабярэжнай частак Прыпяцкага Палесся і басейна р.Бярэзіна: Случ, Грыўка, Стаў і інш. У VIII-XI сгст.н.э. славяне пасяляюцца ў Пасожжы. Гэтымі стагоддзямі датуюцца славянскія археалагічныя помнікі - круглыя курганы з пахаваннямі па абраду трупаспалення. У IX ст. н.э. славяне рассяляліся і у ПадЗвінні. Ім належаць археалагічныя помнікі гэтага часу - круглыя (паўсферычныя) курганы. Яны размяшчаліся скучана, знаходзіліся непадалёку адзін ад другога. Вакол кургаиоў выкопвалі ровікі. К IX - X стст. н.э. славяне рассяляліся таксама ў Верхнім Панямонні. У гэты час тут з'явіліся акруглыя курганы.

Такім чынам, у VIII - IX стст. н.э. адбыліся істотныя змены ў этнічным складзе і культуры насельніцтва на тэрыторыі Беларусі. Вялікія групы славян пасяліліся ва ўсіх яе рэгіёнах. Пачаліся цесныя кантакты славян з мясцовым балцкім населыгіцтвам. Узаемадзеянне славян і балтаў істотна змяніла іх культуру. Балцкае насельніцтва было асімілявана. Ранейшая кулыура тыпу Калочын - Банцараўшчына ў VIII ст. знікла. У выніку славяна-балцката сінтэзу к IX-X стст. н.э. сфарміраваліся новыя славянскія этнічныя супольнасці, што неаднаразова ўпамінаюцца ў сярэдневяковых пісьмовых крыніцах, - дрыгавічы, крывічы і радзімічы. Яны займалі ў гэты час асноўную частку тэрыторыі Беларусі.

Дрыгавічы першапачаткова займалі значную частку Па-прыпяцця. Паўднёвая мяжа дрыгавічоў праходзіла за Прыпяццю на поўдзень ад яе. Ад суседніх драўлян дрыгавічоў аддзялялі балоцістыя мясцовасці. Потым дрыгавічы прасунуліся на поўнач, апынуліся ў вярхоў'ях Нёмана. Асобныя іх групы, магчыма, рассяляліся і на больш паўночнай тэрыторыі. Мова дрыгавічоў была славянскай. Славянскімі па паходжанні былі і такія элементы іх культуры, як буйныя металічныя пацеркі, пакрытыя зерню,

пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы. Славянскімі былі сярпы, нажы, кераміка. Да элемеетаў балцкага паходжання у культуры дрыгавічоў адносіліся спіральныя пярсцёнкі, змяінагаловыя бранзалеты, зоркападобныя спражкі. Аб змешаным славяна-балцкім паходжанні дрыгавічоў, верагодна, сведчыць і сама назва гэтай супольнасці. Корань гэтай назвы, магчыма, балцкі. У літоускай мове шмат слоў з такім коранем (dregnas - сыры, вільготны, dregme - сырасць, вільготнасць і інш.). Словы з гзтым коранем адлюстроуваюць адну з асаблівасцяў мясцовасці, у якой жыла вялікая група дрыгавічоў, менавіта вільготнасць, забалочанасць зямель у парэччы Прыпяці. На думку вядомага лінгвіста Ю.Хабургаева, падобна назве суседняй балцкай супольнасці (lietuva) назва балцкай супольнасці ў парэччы Прыпяці мела форму dreguva. Пасля змешвання славян з балтамі і асіміляцыі апошніх у наэве новай супольнасці, якая сфарміравалася, захавалася ранейшая аснова, да якой было дададзена славянскае "-ічы". Так узнікла назва "дрыгавічы". Яна з'яўляецца славянізаванай формай ранейшай балцкай назвы, што азначала групу балцкага насельніцтва па асаблівасцях тэрыторыі, на якой яна жыла да шырокага рассялення славян.




Упрыгажэнні жанчын: 1 — крывічанкі; 2 — дрыгавічанкі; 3 — радзімічанкі

Такога ж змешанага славяна-балцкага паходжання былі і радзімічы, якія сфарміраваліся ў Пасожжы і займалі гэту тэрыторыю і ў пазнейшы час. Мова радзімічаў была славянскай. Славянскімі па паходжанні ў культуры радзімічаў былі таксама сяміпрамянёвыя кольцы, бразготкі, кераміка. Разам з тым у культуры радзімічаў былі і элементы балцкага паходжання. Да іх адносіліся бранзалеты са змяінымі галовамі на канцах, бронзавыя спіралькі, касцяныя прывескі ў выглядзе качак, зоркападобныя спражкі. Назва "радзімічы , верагодна, таксама змешанага славяна-балцкага паходжання.




Рассяленне летапісных плямёнаў на тэрыторыі Беларусі.

Самымі блізкімі да гэтай назвы з'яўляюцца балцкія (літоўскія) словы radimas (знаходжанне), radimviete (месцаз-находжанне). У славянскай і балцкай назвах аснова (радзім) агульная, адрозніваюцца толькі канчаткі. Назва ўсходнесла-вянскай супольнасці заканчваецца на славянскае "-ічы". Змешанага славяна-балцкага паходжання была і самая вялікая ўсходнеславянская супольнасць таго часу - крывічы, што сфарміраваліся на тэрыторыі, размешчанай на поўначы ад дрыгавічоў і радзімічаў. Крывічы рассяляліся вельмі шырока. Паўночная мяжа крывічоў дасягнула вярхоўя Волгі. Араал іх рассялення, апрача Падзвіння, уключаў таксама і верхняе Падняпроў'е. Як адзначаецца ў старажытным летапісе, "кривичи иже седять на верх Волги, и на верх Двины, и на верх Днепра". Мова крывічоў была славянскай. Славянскімі па паходжанні элементамі культуры крывічоў з'яўляліся бранзалетападобныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі, крывіцкія бранзалегы, кераміка. Адначасова ў культуры крывічоў ёсць і элементы балцкага паходжання. Да іх адносяцца бранзалеты са змяінымі галовамі, шыйныя грыўны балцкага тыпу, галаўны вянок і інш. Змешанага славяна-балцкага паходжання, магчыма, і сама назва гэтай супольнасці. Верагодна, яна адлюстроўвае своеасаблівасць той значнай часткі іх тэрыторыі на Міншчыне і Смаленшчыне, дзе шмат узгоркаў і мясцовасць як бы крывая. Высокія мясціны чаргуюцца з больш нізкімі. Такі характар мясцовасці асабліва тыповы для поўдвя і ўсходу іх тэрыторыі. У адрозненне ад балоцістай

мясцовасці дрыгавічоў яе маглі назваць крывой. Шмат слоў са значэннем крывізны ёсць не толькі у славянскіх, але і у балцкіх мовах, напрыклад літоўскай (kreivas - крывы, kreivinti - крывіць, kreivis, kreivimas - крывізна, kreivuzas - крывая рэч). Паколькі першапачаткова на тэрыторыі крывічоў жылі не славяне, а балты, можна меркаваць, што тэрмінам з першапачатковай асновай "крыў" (kreiv) тут назвалі балцкае насельніцтва. Лінгвіст Ю.Хабургаеў лічыць, што гэты тэрмін першапачаткова меў форму kreuva, krieva, а пасля змешванвя славян з балтамі і фарміравання новай супольнасці яна некалькі змянілася, але захавала ранейшую аснову, да якой было дададзена славянскае "-ічы". Так з'явілася назва адной з усходнеславянскіх супольнасцяў - крывічы. У балцкіх мовах па-ранейшаму захавалася некалькі змененая балцкая форма, якой балты называлі славянскіх суседзяў на ўсходзе, - kreivs, krievai. Да цяперапшяга часу яна захавалася ў латышскай мове для абазначзння велікарусаў (рускіх): kreivs - рускі, Kreivja - Расія.




Да нядаўняга часу навукоўцамі заніжаўся ўзровень развіцця крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў. Іх лічылі плямёнамі ці саюзамі плямёнаў і адносілі да родаплемянной стадыі чалавечага грамадства. Але гэта не так. К IX-X стсг., калі сфарміраваліся гэтыя супольнасці, яны, асабліва крывічы і дрыгавічы, ужо дасягнулі больш высокай стадыі развіцця, падняліся на ступень раннекласавага грамадсгва і стварылі дзяржавы, якія можна назваць прадзяржавамі (протадзяржавамі). Для такой высновы ёсць шмат доказаў. Аб гэтым сведчыць узровень развіцця іх гаспадаркі, у прыватнасці земляробства і рамёстваў. У земляробстве пачалі выкарыстоўваць больш дасканалыя прылады, у якіх з'явіліся жалезныя наканечнікі. У гэты ж час у крывічоў і дрыгавічоў пашырылася выкарыстанне сярпоў новага тыпу, якія вядуць сваё паходжанне ад аналагічных рымскіх прылад, былі ўдасканалены кавальскае і ганчарнае рамёствы. У кавальскім промысле з'яўляюцца і паступова ўдасканальваюцца сырадутныя печы. У ганчарстве пачалі выкарыстоўвацца ганчарны круг і спецыяльныя печы для абпальвання вырабаў з гліны.

Апрацоўка жалеза і гліны паступова становіцца прафесійным відам дзейнасці, асобным заняткам. Рамёствы пачынаюць аддзяляцца ад земляробства. Гэта стварае спрыяльныя ўмовы для ўзнікнення пастаяннага гандлю. V IX-X стст. у крывічоў і дрыгавічоў з'яўляецца ўстойлівае грашовае абарачэнне. На тэрыторыі крывічоў, у прыватнасці на Полаччыне, каля в. Казянкі, знойдзены клад гэтага часу, у якім было звыш 7500 манет. У выніку такіх важных змен у гаспадарчых занятках у крывічоў і дрыгавічоў узнікаюць першапачатковыя гарады (прагарады, протагарады). На тэрыторыі крывічоў у IX ст. узнікае Полацк, у X ст. - Віцебск, а на тэрыторыі дрыгавічоу у X ст. з'яўляецца Тураў. У гэты час змяняецца і сацыяльны склад насельніцтва. Яно падзяляецца на знаць (князёў) і астатніх жыхароў. Першыя адрозніваліся сваімі функцыямі і становішчам, якое адлюстравана ў пахаваннях. На Полаччыне, у адным з курганоў каля в. Баркі, знойдзена каля 200 упрыгажэнняў. У крывічоў і дрыгавічоў у адрозненне ад папярэдніх балцкіх супольнасцяў усталявалася другая сістэма кіравання. Рода-племянное кіраванне змянілася палітычным. Узніклі першапачатковыя дзяржавы, якія называліся княжаннямі. У полацкіх крывічоў і дрыгавічоў кіраванне ўзначальвалі князі, якія атрымлівалі гэтыя пасады па спадчыне. Старажытныя пісьмовыя крыніцы называюць нават імёны такіх князёў (Рагвалод - у полацкіх крывічоў, Тур - у дрыгавічоў). У княжаннях быу дзяржаўны апарат для збірання даніны.

Усе гэтыя факты сведчаць аб тым, што памылкова называць крывічоу і дрыгавічоў, а верагодна, і радзімічаў, плямёнамі, паколькі сярод іх ужо не было сацыяльнай роўнасці, аднолькавага сацыяльнага становішча ўсіх членаў супольнасці. У крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў знікла родаплемянное дзяленне і родаллемянное кіраванне. Памылкова называць гэтыя супольнасці і саюзамі плямён, таму што калі не было плямёнаў, то не існавала і асновы, падставы для іх саюза. Саюзамі плямён звычайна называюць, асабліва ў этнаграфічнай літаратуры, часовыя аб'яднанні, якія заснаваны на дагаворы, што мае пэўны тэрмін дзеяння. У саюзы могуць аб'ядноувацца і няроднасныя плямёны, якія адрозніваюцца сваёй культурай, мовай. Такім чынам, саюзы плямён - гэта часовыя іх аб'яднанні, якія вызначаюць пэўныя адносіны паміж імі. Што датычыцца крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, то ў адрозненне ад такіх саюзаў яны былі перш за ўсё культурнымі супольнасцямі, гэта значыць устойлівымі аб'яднаннямі, якія ўзніклі не на аснове дагавора, а сфарміраваліся стыхійна. Яны ўяўлялі сабой, можна сказаць, першапачатковыя народы (пранароды, протанароды) і адносіліся да новага тыпу этнічных супольнасцяу, які адпавядае пачатку цывілізацыі - больш высокай стадыі ў развіцці чалавецтва, чым плямёны і саюзы плямён. І сапраўды, крывічы, дрыгавічы і радзімічы праіснавалі да сярэдзіны XII ст. (апошняе ўпамінанне дрыгавічоў датуецца 1149 г., крывічоў як асобнай этнічнай супольнасці - 1162 г., радзімічаў - 1169 г.) і стварылі высокаразвітую культуру, сімвалам якой з'яўляецца Сафійскі сабор у Полацку, пабудаваны ў XI ст. Не толькі культура, у прыватнасці архітэктура, але і іх сацыяльны і палітычны лад сведчыць аб тым, што яны дасягнулі пэўнай стадыі цывілізацыі.

Крывічы, дрыгавічы і радзімічы адыгралі велізарную ролю ў айчыннай гісторыі. Многія вучоныя (Я.Ф.Карскі, У.І.Пічэта і інш.) нават лічылі, што яны былі непасрэднымі продкамі беларускай этнічнай супольнасці, беларускага народа. Ёсць і іншыя погляды на гэта пытанне.

Мы ўжо згадвалі ў гістарыяграфічным аглядзе пра існаванне розных канцэпцый паходжання беларусаў: фіна-славянскай, балта-славянскай, крывіцка-дрыгавіцка-радзіміцкай, агульнастаражытнарускай. Але каб вызначыць адносіны да іх, неабходна спачатку высветліць, якое месца ў этнічнай (культурнай) гісторыі края займаюць тыя факты, на якія абапіраюцца гэтыя канцэпцыі. Напрыклад, ці з'яўляюцца назвы некаторых беларускіх рэчак фінскага паходжання доказам таго, што продкамі беларусаў былі і фінамоўныя групы насельніцтва? Можна ўпэўнена сцвярджаць, што не з'яўляюцца. Фінамоўнае насельніцтва на тэрыторыі Беларусі жыло ў глыбокай старажытнасці, у канцы каменнага веку, і было асімілявана туг не славянамі, а старажытнымі балтамі, якія рассяляліся у Панямонні, Падзвінні і Верхнім Падняпроўі ў бронзавым веку. Фіны на тэрыторыі Беларусі былі субстратам (падасновай) не беларусаў, а старажытных балтаў. Фінскія назвы рэчак і азёр у нашым краі спачатку былі ўспрыняты балтамі, а потым ад балтаў перайшлі у лексіку славянскага насельніцтва, якое з'явілася ў Панямонні, Падзвінні і Верхнім Падняпроўі пасля балтаў.

Шмат спрэчнага і ў доказах балцкай канцэпцыі. Факты, на якія спасылаюцца яе прыхільнікі, характэрныя не толькі для балтаў і беларусаў. Цвёрды "р", напрыклад, апрача балтаў і беларусаў уласцівы таксама мове ўкраінцаў, балгар, сербау, чэхаў, славакаў, на якіх балты не зрабілі культурнага ўплыву. Жаночы галаўны ўбор намітка быў пашыраны не толькі ў балтаў і беларусаў, але і ў іншых славянскіх народаў, у прыватнасці украінцаў, балгар, палякаў. А такая з'ява, як культ вужа, была распаусюджана яшчэ шырэй. Яна ўласцівая рэлігіі не толькі балтаў і славянаў, але і грэкаў, албанцаў. Назвы беларускіх рэчак і азёр балцкага паходжання таксама нельга лічыць доказам балцкага субстрату беларусаў. Яны сведчаць толькі аб тым, што ў мінулым пасля фінаў на тэрыторыі Беларусі жылі старажытныя балты. У выніку шырокага рассялення славян на тэрыторыі нашага края і змешвання іх з усходнімі балтамі ўтварыліся не беларусы, а першасныя ўсходнеславянскія этнічныя супольнасці - крывічы, дрыгавічы і радзімічы. Пашыраны да гэтага часу погляд, што яны з самага пачатку былі чыста славянскімі этнічнымі супольнасцямі, а не змешанага паходжання, не мае грунтоўных доказаў. Значна больш арііументаў у карысць погляду, што дрыгавічы, крывічы і радзімічы сфарміраваліся на тэрыторыі Беларусі як

славяна-балцкая супольнасць. У параўнанні са старажытным фіна- і балта-моўным насельніцтвам яны гісгарычна бліжэй да беларусаў. Але і ў аргументацыі погляду, што непасрэднымі продкамі беларускага народа з'яўляюцца крывічы, дрыгавічы і радзімічы, ёсць спрэчныя моманты. Тыя элементы культуры і мовы беларусаў (розяыя тыпы сахі - палеская і з перакладной паліцай, асаблівасці гаворак асобных рэгёнаў, "аканне", дыфтонгі ўо, іе, якія лічацца састаўнымі элементамі культуры і мовы дрыгавічоў ці крывічоў, узшклі пазней, чым ісаавалі крывічы, дрыгавічы і радзімічы (не раней XII ст.) і займалі больш шырокія арэалы, чым тэрыторыі дрыгавічоў, крывічоў і радзімічаў.

Шмат схематычнага ва ўяўленнях "старажытнарускай" канцэпцыі паходжання беларусаў. Спрэчна лічыць старажытную Русь агульнай калыскай беларускай, украінскай і велікарускай супольнасцяў, таму што яна распалася, знікла раней, чым утварыліся беларускі, украінскі і велікарускі народы. Рэгіянальныя асаблівасці культуры і мовы ўсходніх славян, як ранняй, так і больш позняй пары, не адпавядаюць усходнеславянскім этнасам - беларусам, украінцам і велікарусам. Заходняя частка тэрыторыі усходніх славян, якая стала арэалам фарміравання беларускага этнасу, у час існавання старажытнай дзяржавы - Русі - не вылучалася ў асобную лінгвістычна-этнаграфічную зону. Уяўленне аб тым, што старажытная Русь з'яўляецца калыскай трох усходнеславянскіх этнічных супольнасцяў, у якой яны знаходзіліся як тры дзіцяці, а потым сталі дарослымі, самастойнымі этнасамі, дэманструе спрошчаны падыход да складанага гістарычнага працэсу.

Верагодна, асноўнымі продкамі сучасных беларусаў былі групы насельніцтва, якія жылі ў нашым краі пасля таго, як зніклі крывічы, дрыгавічы і радзімічы. Імі сталі перш за ўсё насельнікі падзвінска-дняпроўскага рэгёна, і старажытныя палешукі, што знаходзіліся ў Папрыпяцці. Першыя сфарміраваліся ў выніку трансфармацыі крывічоў, вяцічаў і паўночнай часткі радзімічаў, а другія - дрыгавічоў, драўлян і паўднёвых радзімічаў. Старажытныя палешукі і днепра-дзвіны мелі таксама агульную назву "русіны", "рускія" (у значэнні ўсходніх славян). Яны адрозніваліся ад крывічоу, дрыгавічоў і радзімічаў новымі рысамі культуры і мовы. У жыхароў падзвіна-дняпроўскага рэгёна былі пашыраны саха з перакладной паліцай, гумны прамавугольнай формы, світа прамога крою, зачынальная вясельная песня (сгаўбавая), трансфармаваны валачобны абрад. У іх гаворцы ўзнікла "аканне" (вымаўленне галоснага гука "о" не пад націскам як "а"), а таксама "дзеканне" (зычны гук "д" сталі вымаўляць мякчэй).

Характэрнымі элементамі культуры старажытных палешукоў з'яўляліся палеская саха, многавугольныя гумны, развітая форма каравайнага абраду, зімовае навагодняе свята Каляды. У гаворцы старажытных палешукоў гукі "р" і "ч" пачалі вымаўляюцца цвёрда. У ёй узніклі дыфтонгі ўо, іе.




У фарміраванні культуры і мовы старажытнага насельніцтва беларускіх зямель пераважалі эвалюцыйныя працэсы. Важным бокам беларускага этнагенезу было пашырэнне культурных і моўных з'яў, што прыкметна паўплывала на ўтварэнне беларускай мовы, у прыватнасці яе фанетыкі. Фанетыка беларускай мовы ўзнікла шляхам злучэння некаторых рыс гутарковай мовы папрыпяцкага насельніцтва, з аднаго боку, і падзвінскага - з другога. Яно спачатку адбылося ў цэнтральным рэгіёне - панёманскіх і падняпроўскіх землях, а потым праз цэнтральны рэгіён пашырылася далей у паўднёвыя і паўночныя часткі края. З поўдня (Папрыпяцця) на поўнач (Падзвінне) шырока распаўсюджваліся цвёрдыя 'р" і "ч", а з поўначы на поудзень - мяккі "д" ("дзеканне"), а таксама "аканне". Дыфузіі культурных і моўных з'яў садзейнічалі перасяленні як усходнеславянскіх, так і неўсходнеславянскіх груп, змешванне іх з мясцовымі жыхарамі і асіміляцыя ўсходнеславянскім насельніцтвам

неўсходнеславянскага - заходнеславянскага (польскага), балцкага, цюркскага (татарскага). Беларускі этнагенез цесна звязаны з палітычнай гісторыяй края. Ён адбываўся як у час існавання старажытных княстваў - Полацкага, Тураўскага і інш., так і ў перыяд утварэння новай дзяржавы - Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага.

**Артыкул:** *М. Чарняўскага*





# Кліч роднай мовы

*Для Бацькаўшчыны-маці буду йграць!*

***Я. Купала***

## 21 лютага адзначаецца Міжнародны дзень роднай мовы

21 лютага ў свеце адзначаецца Міжнародны дзень роднай мовы. Гэтае свята абвешчана Генеральнай канферэнцыяй ЮНЭСКА ў 1999 годзе дзеля захавання моваў, якім пагражае знікненне. Свята роднай мовы прымеркавана да гадавіны гібелі пецярых студэнтаў Бангладэш, якія выступалі за самастойнасць мовы бангла ў Пакістане.

Паводле перапісу насельніцтва, беларускую мову назвалі роднай 5 мільёнаў 58 тысяч грамадзян Беларусі. Сярод беларусаў гэтую мову лічаць роднай крыху больш за 60%. Большая частка насельніцтва (70%) аддае перавагу рускай мове. На ёй размаўляюць 96% рускіх, 88% украінцаў, 70% беларусаў, 51% палякаў. Па-беларуску дома размаўляюць 26% беларусаў і … 41% палякаў.

Калі ў Мінскай вобласці беларускую мову лічаць роднай каля 70% насельніцтва, то ў іншых рэгіёнах – крыху больш за 50%.

З 45 тысячамі дашкольнікаў (12%) ва ўстановах дашкольнай адукацыі выхавацелі размаўляюць па-беларуску. 18% (164 тысячы) беларускіх школьнікаў вывучаюць усе прадметы на беларус кай мове. Толькі для 1600 навучэнцаў (1%) беларуская мова ў якасці мовы навучання захоўваецца ва ўстановах спецыяльнай сярэдняй адукацыі. У ВНУ па-беларуску навучаецца 4200 студэнтаў – 0,9%.

***Моўныя стэрэатыпы***

Калі чалавек пачынае размаўляць па-беларуску, трэба падрыхтавацца да таго, што:

- *Яго будуць лічыць бэнээфаўцам*
- *Калгаснікам*
- *Студэнтам філфаку*
- *Будуць думаць, што яго бацькі выкладчыкі беларускай мовы*
- *Ён выпендрываецца*

З гэтым сутыкаюцца ўсе. Галоўнае - не звяртаць шмат на гэта ўвагі і мець упэўненасць.

***Як удасканальваць мову?***

Шукайце беларускамоўнае асяроддзе. Людзей, якія размаўляюць па-беларуску, шмат ва он-лайнавай прасторы і ў рэальнай. Часцей за ўсё гэтыя людзі вельмі адкрытыя да камунікавання. Кожны сам прайшоў праз складанасці адаптавання да мовы, таму цудоўна разумее становішча “новых” людзей.

***Дапаможнікі***

Чытайце паболей беларускай літаратуры. Вітаецца музыка і кіно. Накірункі і стылі няважныя. Галоўнае – чуць мову.

***Першыя крокі***

Хутчэй за ўсё, адразу будзе складана перайсьці на родную мову. Паспрабуце размаўляць па-беларуску спачатку толькі зь блізкімі сябрамі, пасьля – дома, пасьля – ва нівэрсітэце…

Паступова пашырайце кола.

***Эфэкт***

Самым яскравым паказальнікам таго, што вы пачалі думаць па-беларуску - ваша гаворка ў сьне альбо падчас моцнага эмацыйнага

перажываньня. Вось тут складана скантраляваць моўную плынь!
***Што дае вам мова?***
Галоўнае – адчуванне таго, што вы варты званьня беларусам. Пазітыўныя эмоцыі Вам забясьпечаныя. Магчымасьць выдзяляцца, быць шчырым, апантанным, - гэта вартае высілкаў.

***Дык шануй, беларус, сваю мову,–гэты скарб наш на вечныя годы, за пашану радзімаму слову, ушанують нас брацця-народы***
*Алесь Гарун*



Жаўнер літоўскай лёгкай коньніцы

**Рубрыка "Што?Дзе?Калі?"**

## Што такое Лясная ўстава?

Лясная ўстава — заканадаўчая інструкцыя па выкарыстаньні лясных угодзьдзяў у Рэчы Паспалітай. Выдадзеная ў 1567 годзе Жыгімонтам II Аўгустам, стала першым падобным дакумэнтам на славянскай мове. На думку М. В. Доўнар-Запольскага, менавіта «Лясная ўстава» завяршыла арганізацыю ляснога гаспадараньня ў ВКЛ.
Паводле новага закону, для разбору розных цяжбаў аб праве карыстаньня лесам і сенажацямі была створаная адмысловая камісія. Лясьнічыя атрымалі падрабязную інструкцыю пра дзеяньні падчас аб'езду пушчаў і лясоў.
Статут забараняў высечку сухіх дрэваў без дазволу каралеўскай улады, вызначаў пакараньне за самавольнае разьмяшчэньне пчаліных вульляў у дуплах дрэваў, абмяжоўваў рыбную лоўлю і колькасьць паляўнічых сабакаў. За забойства буйнога зьвера была вызначаная вышэйшая мера пакараньня.
Устава ўвяла сыстэму квітоў (па-польску: «kwit») для парадкаваньня выкарыстаньня дзяржаўнай ці магнацкай лясной маёмасьці. Усе факты перадачы якіх заўгодна лясных тавараў да скарбу праз вышэйшага па рангу тварыша павінны былі рэгістравацца гэтымі квіткамі з дакладна пазначанай датай прыёму тавараў, іх найменьнем і колькасьцю. Унізе квітка месьціўся подпіс прымаючага.



## Апошні кароль Рэчы Паспалітай

### Апошнія гады панавання

Падчас першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 г. (калі пад наглядам Кацярыны II

дыпламаты Расіі, Прусіі і Аўстрыі падпісалі ў Пецярбургу канвенцыю) Станіслаў Аўгуст Панятоўскі спрабаваў пратэставаць і звярнуўся да еўрапейскіх двароў, але ніводная дзяржава не прыйшла яму на дапамогу. Суседнія манархі ва ўмовах чарговай расійскай акупацыі (расійскія войскі, якія змагаліся з барскімі канфедэратамі, заставаліся ў краіне і гарантавалі падзел) падзялілі дзяржаву. Расія забрала тэрыторыю з гарадамі Дынабург, Полацк, Віцебск, Орша, Магілёў і мястэчкам Гомель. Прусіі Кацярына II згадзілася аддаць Памор'е, а Аўстрыі - Галіцыю (Заходнюю Украіну) і паўднёвую частку Польпчы.



Пасля першага падзелу Станіслаў Аўгуст Панятоўскі паступова ўзмацніў сваю ўладу падчас барацьбы за яе паміж рознымі магнацкімі групоўкамі. У 1775 г. была створана Пастаянная рада, якая складалася з караля, 18 сенатараў і 18 дэпутатаў сойма, у 1773 г. - Адукацыйная камісія (першае ў Еўропе міністэрства адукацыі). Былі прыняты рашэнні, накіраваныя на паляпшэнне гандлю і прававога становішча гараджан, на развіццё прамысловасці. Кароль пераўтварыў Пастаянную раду ў орган цэнтральнай выканаўчай улады і імкнуўся ліквідаваць анархічны дзяржаўны лад.

Але давялося Станіславу Аўгусту пайсці на кампраміс з Кацярынай II і прызнаць над сабой кантроль расійскага пасла графа А. М. фон Штакельберга. Гэтым ён на пэўны час захаваў абарону тэрыторыі Польшчы ад далейшай прускай і аўстрыйскай анексіі. С. А. Панятоўскі дамагаўся ад Кацярыны II саюзу і яе згоды на павелічэнне арміі і правядзенне рэформаў, а таксама на забеспячэнне спадчыннасці трона для свайго пляменніка Станіслава Панятоўскага (1751-1833), які быў шэфам гвардыі пешай кароннай, а потым падскарбіем вялікім літоўскім у 1784-1791 гг. На сойме 1776 г. каралю ўдалося абмежаваць уладу гетманаў і падпарадкаваць войска. Але правядзенне далейшых рэформаў Расія не дазваляла. Супраць караля Расія падтрымлівала магнацкую апазіцыю на чале з гетманам вялікім коронным графам Я. К. Браніцкім, а пазней ваяводам рускім, графам С. Ш. Патоцкім.

І ўсё ж такі каралю ўдалося ў 1775-1778 гг. стварыць сваю групоўку, у якую ўвайшлі нават былыя канфедэраты. Гэта добра паказаў Адам Міцкевіч у асобе Мацька пад Мацькамі, які "з канфедэрата стаў прыхільнікам караля і падтрымліваў Тызенгаўза, падскарбія літоўскага".

Станіслаў Аўгуст Панятоўскі падтрымліваў асветніцтва і адукацыю, быў мецэнатам, ініцыятарам выдання газеты "Манітор", апекаваўся тэатрам і мастацтвам, намагаючыся ўзняць прэстыж Рэчы Паспалітай у Еўропе. Пры двары Станіслава Аўгуста былі сабраны найлепшыя мастакі і скульптары. У гэты час быў перабудаваны Каралеўскі палац у Варшаве, палацавы ансамбль у Лазенках. Кароль адчыніў пры палацы мастацкую школу, высылаў стыпендыятаў на вучобу за мяжу. Ён збіраў калекцыі гіпсавых бюстаў, гем і камей, манет, сабраў галерэю карцін. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі рыхтаваў адкрыццё акадэміі мастацтва, акадэміі навук і літаратуры, нацыянальнага музея. Асабіста падтрымліваў адкрыццё мануфактур, у тым ліку на Беларусі (з дапамогай А. Тызенгаўза), спрыяў прамысловай здабычы солі.

Адносная раўнавага ў палітычным жыцці Рэчы Паспалітай была пахіснута дзеяннямі апазіцыі, якая прадстаўляла шырокія колы прагрэсіўнай шляхты і мяшчан (шляхецка-буржуазнага блоку). Гэты блок на Чатырохгадовым сойме (1788-1792] правёў шматлікія і грунтоўныя рэформы, набліжаючы дзяржаўны лад Рэчы

Паспалітай да рэвалюцыйных змен Вялікай Французскай рэвалюцыі канца XVIII ст.

Кароль, насуперак жаданню расійскага пасла ў Варшаве графа А. М. фон Штакельберга, пайшоў на пагадненне з рэфарматарамі, кіраўнікамі сойма, супрацоўнічаў з імі. У снежні 1790 г. ён перадаў у сойм свой праект рэформы дзяржаўнага ладу, у якім прапаноўваў больш моцны манархічны лад і мадэрнізацыю дзяржаўнага апарату, але захоўваў саслоўны парадак. У значнай ступені прапановы караля былі ўкладзены рэфарматарамі ў прынятую 3 мая 1791 г. Канстытуцыю (Урадавую ўставу). Гэта падняло аўтарытэт караля, асабліва сярод мяшчанства, якому былі нададзены пэўныя правы.

У 1792 г. збройная інтэрвенцыя Расіі спыніла рэформы. Праціўнікі рэформаў - удзельнікі Таргавіцкай канфедэрацыі, - ідучы ў абозе царскіх войскаў, захапілі ўладу ў Вялікім Княстве Літоўскім і Польшчы. Да канфедэрацыі далучыўся і кароль, санкцыянаваўшы інтэрвенцыю і скасаванне рэформаў Чатырохгадовага сойма. На караля легла адказнасць як на капітулянта, які спыніў збройны адпор інтэрвентам. Цяпер Кацярына II трымала свае войскі ў Рэчы Паспалітай пастаянна. Кіраўнікі рэфарматараў вымушаны былі эміграваць і рыхтавалі паўстанне ў Польшчы, Беларусі і Літве. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі падчас працы апошняга сойма Рэчы Паспалітай у Горадні (улетку 1793 г.) ужо дзейнічаў цалкам пад кантролем расійскага пасла графа Я. Я. Сіверса, калі сойм мусіў пагадзіцца з другім падзелам Рэчы Паспалітай, ад якой Кацярына II адарвала цэнтральную частку Беларусі і Правабярэжную Украіну, а Заходнюю Польшчу аддала Прусіі. Станіслаў Аўгуст санкцыянаваў вынікі другога падзелу Рэчы Паспалітай.

Падчас паўстання 1794 г. у Польшчы, Беларусі і Літве пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі (начальнік паўстання) кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі быў адхілены ад улады і займаў фармальнае становішча. Ён нават асцерагаўся за сваё жыццё. Яго малодшы брат, Міхал Ежы, арцыбіскуп гнезненскі, абвінавачаны ў здрадзе на карысць Прусіі і Расіі, каб пазбегнуць лінчавання натоўпам, скончыў жыццё.

Пасля паражэння паўстання 1794 г. Станіслаў Аўгуст па загаду Кацярыны II выехаў з Варшавы ў Горадню, дзе жыў у каралеўскім палацы да смерці Кацярыны II.



У Горадні ён даведаўся аб трэцім падзеле Рэчы Паспалітай і ліквідацыі дзяржавы. Тут 25 лістапада 1795 г. ён падпісаў акт адрачэння ад кароны на карысць Кацярыны II. Гэтым актам спынялася існаванне Рэчы Паспалітай і дзяржаўнасці Польшчы і Беларуска-Літоўскага гаспадарства. Калі Кацярына II памерла (лістапад 1796 г.), Павел I выклікаў Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў Санкт-Пецярбург, дзе кароль пражыў да канца жыцця. Яму быў захаваны тытул караля і невялікі двор. Павел I ставіўся да яго з сімпатыяй і нават аднойчы пацікавіўся ў Панятоўскага, ці не з'яўляецца ён ягоным бацькам, як некаторыя гаварылі, але Панятоўскі не мог даць пэўнага адказу.

Кароль пісаў мемуары, у якіх апраўдваў сваю палітыку. Памёр ён у Санкт-Пецярбургу ў Мармуровым палацы 12 лютага 1798 г. і быў пахаваны ў каталіцкім касцёле на Неўскім праспекце. У 1938 г. рэшткі яго праху перададзены савецкім урадам польскім уладам і перапахаваны ў Троіцкім касцёле ў Воўчыне (Брэсцкая вобласць), дзе нарадзіўся Станіслаў Аўгуст. Пасля Другой сусветнай вайны грабніцу з прахам караля разрабавалі. Урна з прахам караля была разбіта настаўніцай-камсамолкай. У канцы 80-х гг. XX ст. сімвалічны прах караля перавезены ў

Польшчу. Ад Троіцкага касцёла засталіся рэшткі. Пасля вайны ён выкарыстоўваўся як збожжасховішча.

У 1784 г. Станіслаў Аўгуст уступіў у марганатычны (законны, але без права передачы каралеўскай годнасці) шлюб з удавой генерал-інспектара Войска Літоўскага Эльжбетай Грабоўскай і меў ад яе сына, які насіў прозвішча Грабоўскі. Пляменнік караля - Юзаф (1763-1813) - меў тытул ваеннага міністра і галоўнакамандуючага войскамі Варшаўскага вялікага Княства, камандуючага 5-м (польскім) корпусам арміі Напалеона падчас франка-расійскай вайны 1812 г., пазней ён - маршал Францыі. Ад сына старэйшага брата караля засталіся нашчадкі, якія жывуць у Францыі. Адзін з князёў Панятоўскіх - Мішэль - у 1973-1974 гг. быў міністрам аховы здароўя і сацыяльнага забеспячэння, а ў 1974-1977 гг. - міністрам унутраных спраў Францыі.

**Артыкул:** *А. Грыцкевіча*



# «Добры быў пан...»

## Раман Скірмунт у вусных успамінах жыхароў в.Парэчча Пінскага раёну



У жніўні 2000 г. удзельнікі гісторыка-культуралагічнага студэнцкага семінару з Гародні пры падтрымцы Гарадзенскага грамадскага аб'яднання «Ратуша» арганізавалі экспедыцыю ў былыя маёнткі Скірмунтаў у вв. Парэчча Пінскага раёну і Моладава Іванаўскага раёну Берасцейскай вобл. Адной з мэтаў экспедыцыі быў збор успамінаў, звязаных з асобай вядомага палітычнага і грамадскага дзеяча Рамана Аляксандравіча Скірмунта (1868-1939). Нас цікавілі абставіны асабістага жыцця, гаспадарчая дзейнасць, адносіны з жыхарамі вёскі, і, канешне, трагічныя падзеі верасня-кастрычніка 1939 г., калі Раман Скірмунт быў забіты.

Сярод сённяшніх жыхароў Парэчча жыве памяць пра Скірмунтаў. Намаганнямі трох пакаленняў роду Скірмунтаў гэты куток Палесся стаўся адным з буйных прамысловых цэнтраў поўдня Беларусі. Распачаў гаспадарчыяператварэнні Аляксандр Сымонавіч Скірмунт. Першым прамысловым прадпрыемствам у Парэччы стала суконная фабрыка, заснаваная ў 1836 г. У 70-80-ыя г. 19 ст. кошт прадукцыі гэтай фабрыкі складаў штогод каля 300 тыс. руб. Сукно з Парэчча неаднаразова атрымлівала медалі на міжнародных выставах. У 1860 г. у вёсцы пачаў дзейнічаць цукровы завод. Пазней былі заснаваны бровар і крухмальны завод, налажана меліярацыя прылеглай да маёнтку поймы р.Ясельды, распачалося вытворчае ўзнаўленне лесу і г.д. Варта адзначыць таксама разумную сацыяльную палітыку ўладальнікаў Парэчча. Аляксандр Сымонавіч Скірмунт утрымліваў лекара і шпіталь на 12 месцаў. У Парэччы будаваліся дамы для сямейных рабочых, інтарнаты – для несямейных. Аляксандр Аляксандравіч Скірмунт прыняў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы адмены прыгоннага ладу. Ён жа ператварыў адзін з фабрычных будынкаў ва ўласную сямейную рэзыдэнцыю. Менавіта ў ёй у красавіку 1868 г. нарадзіўся сын Раман, якому суджана было стаць вядомым палітычным дзеячом Беларусі.

Практычна ўсе суразмоўцы згадвалі Рамана Скірмунта вельмі добра. Распавядалі, што "пан" сам шмат фізычна працаваў. Сяляне бачылі, як уладальнік маёнтка пілаваў крывыя дрэвы, абразаў або абрубаў сухія галіны дрэваў у лесе і ў парку: "Памешчык кожны дзень на работу выязджаў. У яго быў тапорык, пілачка была. Ён працаваў, не то што якія..."[*]* (Хведар Лукашык, 1922 г. нар.).

Парк быў прадметам асаблівай увагі Рамана Аляксандравіча, які сам заснаваў яго яшчэ на пачатку XX ст. Гэта быў парк у анлійскім стылі, які не меў дакладна пазначаных межаў і стаўся неад'емнай часткай навакольнага ландшафту. Парк перасякалі каналы з перакінутымі праз іх і выгнутымі ў дугу мосцікамі. Галоўная алея, якая цягнулася з поўначы на поўдзень і ўкліньвалася ў прылеглы лес, дзяліла парк на дзве часткі. Найбольш цікавай была заходняя, перарэзаная дзесяткамі шляхоў і сцежак, большасць з якіх вяла на бераг ракі. Тут былі пасажаныя дубы з дамешкам ясеней, клёнаў і вязаў, раслі шматлікія экзатычныя гатункі, як, напрыклад, цюліпанавае дрэва, балотны кіпарыс, лістоўніца Кэмпфера, піхты, чырвоныя дубы, канадскія яліны і яліны Энгельмана і інш. Усяго звыш 30 відаў дрэў. Усе дрэвы мелі таблічкі з дакладнай батанічнай назвай. У парку жылі розныя віды жывёл і цэлыя роі балотных птушак, для якіх будаваліся спецыяльныя хаткі. Парк упрыгожвала сажалка з невялікім астраўком. Тут разводзілі рыбу. Ад Ясельды яе аддзяляла дамба, а вада качалася з дапамогай ветранога рухавіка, які называлі "жураўлём". "Там было красіво, жывая прырода была" (Х.Лукашык). Раман Скірмунт любіў адпачываць у парку. Найчасцей яго можна было ўбачыць на лаўцы каля вялікага камня на перакрыжаванні некалькіх сцяжынак.

Паводле аповядаў да сялян Раман Аляксандравіч ставіўся вельмі добра. Людзі згадвалі, што часта вітаўся першым, аказваў дапамогу асабліва для будаўніцтва, дазваляў касіць траву ("даваў сенакос"), рабіў падарункі на святы, "пагэтаму людзям вельмі падабалася ў яго працаваць, і яны ніколі ад яго не ўходзілі" (Марыя Нікалайчык, 1920 г.нар.). Трапіць да "пана" было проста: "Пастукаемся і зойдзем. Не тое, што зараз. Не дабрацца да якога прэдсэдацеля... А тады: "Паночку, так і так, дзело ёсць". І ён дапамагаў. Ён в последнее время ці што чуствоваў, але хацеў раздаці мужыкам зямлю. Аказваецца не дала яму гэта зрабіць новая ўлада" (Рыгор Цярэшка, 1932 г.нар.). Версію пра зямлю пацвердзіла Анастасія Вакульчык (1911 г.нар.), якая між іншым распавяла, што напрыканцы 30-ых гадоў Раман Скірмунт пачаў надзяляць сялян зямлёй. Часта гэта рабілася, як вясельна падарунак "маладым".

Адраджаць прамысловасць, разбураную ў першую сусветную вайну, уладальнік маёнтку не стаў. Хаця мажлівасць была. Аднойчы прыехала група нямецкіх прадпрымальнікаў, якія прапанавалі адбудаваць суконную фабрыку, вывезеную нямецкімі акупацыйнымі ўладамі з Парэчча ў 1915 г. Раман Скірмунт адмовіўся, нібыта заявіўшы: "Раз забралі, то не хачу болей, каб і будавалі" (А.Вакульчык ).

Цікава, што адносіны Рамана Скірмунта да сялян часта параўноўваліся суразмоўцамі з паводзінамі "моладаўскага пана". Параўнанне заўсёды было на карысць Рамана Аляксандравіча: "У Моладаве быў худшы пан. Бывае і сабаками нацкуе" (Р.Цярэшка) або "Моладаўскі пан лесу не даваў, нават пагарэльцам казаў, што знарок хату спалілі» (Х.Лукашык). Моладаўскім маёнткам напрыканцы 30-ых г. кіраваў Гэнрык Скірмунт. У маёнтку таксама жыў Канстанцін Скірмунт былы сябра Дзяржаўнай Рады Расіі і былы міністр замежных справаў II Рэчы Паспалітай часта хварэў і ў справы маёнтка не ўмешваўся.

Усе суразмоўцы адзначалі, што Раман Скірмунт размаўляў з сялянамі па-беларуску (Вольга Чугай, 1910 г.нар. : "Па-нашаму"; А.Вакульчык: "Па-простаму"; Р.Цярэшка: "Гаварыў па-простаму более-менее, трошкі па-польску, як пан").

Адной з найбольш цікавых знаходак быў аповяд пра асабістае жыццё Р.Скірмунта. Як вядома, ён ніколі не ажаніўся і не меў дзяцей ад шлюбу. Але каханне, безумоўна, было ў ягоным жыцці. Тэрэза Скірмунт, якая зараз жыве ў Варшаве, аднойчы (1998) у размове згадала, што некалі бачыла лірычны верш Рамана Скірмунта, напісаны на беларускай мове. Магчыма, мы знайшлі жанчыну, якой быў прысвечаны гэты верш. Па меньшай меры, вынікі экспедыцыі дазваляюць казаць, што даволі значнае месца на працягу доўгага часу ў жыцці вядомага палітыка і грамадскага дзеяча займала Кацярына Цярэшка (Цярэшчанка?): "Баба красівая была. Самы гады такі пад яго… То засакрэчана любоў" (Марыя Кучыньская, 1919 г. нар.). Муж Кацярыны памёр на самым пачатку XX ст. А ў 20-ыя гады яна ўжо пастаянна жыла ў маёнтку. Людзі распавядалі пра чатырох сыноў Кацярыны – Аляксандра

(Олеся), Рамана, Уладыслава і Пятра (Петруся). У вёсцы казалі, што гэта сыны Рамана Скірмунта. Яны нарадзіліся на пачатку стагоддзя. Малодшы прыблізна ў 1912 г. Усе атрымалі адукацыю, жылі і працавалі ў маёнтку.

Олесь, старэйшы з братоў, ажаніўся на дзяўчыне з Парэчча, якую называлі “камуністкай”, бо аднойчы ў нейкай справе яна выступіла супраць Скірмунта. Пасля вяселля Олесь прыйшоў да Рамана Аляксандравіча прасіць лес на будоўлю хаты. Але нічога не атрымаў. Раман Скірмунт быў моцна незадаволены шлюбам: “Я ж табе казаў: Не бяры Гэлю” (Р.Цярэшка). Маладыя перабраліся ў суседнюю вёску Тышкавічы, знайшлі сабе жыллё. Олесь наладзіў кузню, жонка аказалася неблагой краўчыхай. А Раман Скірмунт, калі даведаўся, што жывуць яны добра, сам прапанаваў Олесю ўзяць лес на пабудову ўласнай хаты. Гэты эпізод сведчыць пра нетыповы характар адносін паміж Раман Скірмунтам і Олесем (Аляксандрам) Цярэшкам. Лёс сыноў Кацярыны Цярэшкі склаўся па-рознаму. Олесь памёр яшчэ ў 30-ыя г. Раман быў арыштаваны НКВД і загінуў у Сібіры. Петрусь з’ехаў у Польшчу…

Мы здолелі натрапіць нават на след пэўнага легендарнага эпосу, звязанага з асобай уладальніка Парэцкага маёнтку. Людзі распавядалі, што Р.Скірмунт мог спыніць пажар: “У Чамярыне гарэла хата. Ён пажар абег, і ўсё… Пажар далей не пойдзе. Ахвяраў няма. А што ён знаў, я не знаю” (Х.Лукашык); “Калі адбываўся пажар, то Скірмунт сам выязджаў туды. Заўсёды абыходзіў пажарышча, і агонь далей не ішоў. Людзі цікавіліся ягоным сакрэтам, але ён нікому гэтага не казаў” (М.Нікалайчык); “Іконы здымаў і абыходзіў пажар. Нешта знаў такое”. (Р.Цярэшка); “Некалі, я вам скажу, хлеў загарэўся. І пайшло, і пайшло гарэць. І прыехаў пан, стаў, рукі зложыў – і сціхло. Вецер прыціх. Ціхэнько, ціхэнько… (А.Вакульчык).

Апошнюю паслугу жыхарам Парэчча Р.Скірмунт аказаў у верасні 1939 г., калі ўжо ішла вайна. Людзі распавялалі, што група парэчскіх мужыкоў, убачыўшы здаля браніраваны цягнік з салдатамі, пайшла іх сустракаць з чырвоным сцягам. Але аказалася, што гэта быў польскі атрад, які распачаў стральбу па “ветлівых” гаспадарах. Мужыкі разбегліся. Некалькі чалавек было паранена. Расправы з вёскай не дапусціў Раман Скірмунт, які пераканаў камандзіра атраду, што парэчскія мужыкі такога зрабіць не маглі: “Не трогайце парiччан!” (М.Кучыньска); “Кажа: Гэта маі людзі. Оні гэтаго не рабілі” (А.Вакульчык).

Праз некалькі дзён прыйшла Савецкая ўлада. Раман Скірмунт разам з мужам сястры Алены Баляславам Скірмунтам быў арыштаваны. Дапамогі ад людзей ён не дачакаўся. На пытанне, чаму ж Раман Скірмунт не з’ехаў, Марыя Кучыньская адказала: “Быў пэўны на свой народ, бо він яго не обіжаў. Ён мог уцячы, але думаў, што прыйдуць Саветы і разбяруцца”. Яна ж распавяла, як паводзіў сябе Раман Аляксандравіч пасля арышту: “Ён хацеў так: Я ведаю, што ўжо не памешчык, такі ж рабочы, як і ўсе. Я буду рабіці, але трэба, каб прыйшло начальства… Ну, ідзіце, забірайце ўсё маё багацце. Но работайце. А я пасматру, як вы будзеце рабіць. Маладнякі шчэ ж вы, ніц не знаеце”. Спадзяванне Рамана Скірмунта на з’яўленне высокага начальства, ягоныя надзеі на размову з гэтым начальствам пацвярдзілі і іншыя суразмоўцы. Але гэтага спаткання не адбылося. “Начальства” (камісары Холадаў, Кавалёў і Маскалёў) сапраўды з’явіліся, але сустракацца з Р.Скірмунтам і не збіраліся. Падобна на тое, што менавіта яны (часцей суразмоўцы згадвалі Холадава) і загадалі забіць уладальніка маёнтка (Хведар Хвясюк, 1920 г. нар., А.Вакульчык).

Сярод парэччан знайшліся людзі, якія выканалі гэты злачынны загад. Суразмоўцы асуджалі іх: “А між людзьмі ўсякі ёсць. Е падхалімы такі” (Р.Цярэшка)”; “Людзі, што забілі Скірмунта, былі гулякамі, любілі выпіць, пагуляць” (Х.Хвясюк) . Калі Рамана і Баляслава Скірмунтаў вялі на смерць, нехта з парэччан паспрабаваў заступіцца: “Што вы робіце? Куды вы яго вядзеце?” І пачуў у адказ: “Маўчы, бо і табе гэта будзе шчэ!” (А.Вакульчык). Марыя Нікалайчык згадала, што калі “пана” вялі забіваць, то мясцовыя жыхары плакалі, а “пан” казаў: “Я з вамі развітваюся назаўсёды. Спадзяюся, што нікому не зрабіў кепскага”. У адказ на пытанне, чаму ж вы не абаранілі чалавека, людзі разводзілі рукамі і адказвалі прыблізна так: “А як жа абароніш? Нічога не зробіш!” (М.Кучыньская).

Кажуць, што перад смерцю Раману Скірмунту загадалі адвярнуцца ад забойцаў. Ён адмовіўся: “Я ад людзей адварочвацца не буду”. І, быццам бы, дадаў: “Я б вам не саветаваў гэта рабіць, бо вы маладыя. Я ўжо аджыў свае гады”. У аднаго з забойцаў (Ткачук), нават ружжо з рук выпала (А.Вакульчык). Але камісарскі загад быў выкананы.

І толькі пасля смерці Р.Скірмунта людзі адчулі страту: “ І нашто забілі пана? Нашто? Ён бы прэдседацелем быў бы ў нас. Ён быў звязаны з Масквой, з усімі. Прыйдзеш да яго, няма ў цябе чаго, што папросіш – дасць. Ён не адказваў. Жэнішся – і поля троху ўрэжа” (М.Кучыньская).

Пазней, ужо ў часы нямецкай акупацыі прах Рамана і Баляслава Скірмунтаў быў перазахаваны. З месца забойства (т.зв “Коранеўскі лес”) целы забітых перавезлі ў парэчскі парк, дзе і пахавалі: “Было ўрачыстае пахаванне, але людзі баяліся выходзіць з дому. Глядзелі праз акенца. Ужо потым усе хадзілі да магілы” (М.Кучыньская).

У верасні 1939 г. побач у Моладаве ўзброены атрад, у якім пераважалі жыхары в.Мотыль, напаў на палац Скірмунтаў. Генрыка Скірмунта і яго сястру Марыю забілі. Ніна Шаталава (1927 г.нар.) распавяла, што перад смерцю Генрык звярнуўся да забойцаў: “Мяне ўбівайце, мяне ёсць за што… А яна ж (Марыя – А.С.) была добрая да вас”. Людзі сапраўды згадвалі, што паважалі Марыю, хадзілі да яе за лекамі. Яна дапамагала і грашыма. Але забойцы не мелі літасці. У жывых застаўся толькі стары гаспадар Моладаўскага маёнтку Канстанцін Скірмунт. У гэты момант ён быў цяжка хворы, прыкаваны да ложку. Відаць, забойцы вырашылі, што гэты “пан” вось-вось памрэ сам.

У 1939 г. распачаліся таксама рабункі скірмунтаўскіх маёнткаў. У Моладаве апроч палацу разрабавалі родавыя могілкі. Н.Шаталава згадала, што гэта рабілі не мясцовыя жахары, а зняволеныя, якія прывезлі з усходу Беларусі дзеля будаўніцтва ваеннага аэрадрома. Па яе словах, менавіта яны разбівалі помнікі, раскопвалі магілы, шукаючы “скарбы”. Пасля вайны гэтую справу працягваў дырэктар мясцовай школы: “А пасля наш дырэктар. Ён некі тожэ быў прыдурак. Разам з вучнямі выкапалі маладую жанчыну ды каля касцёла паставілі. Ды я нават хадзіла, сварылася… То яе назад потым паклалі” (Н.Шаталава).

Пасля рабунку ў Моладаўскім палацы зрабілі калгасную сядзібу, а ў касцёле – краму. Канчаткова і Моладаўскі і Парэчкі палацы былі зруйнаваныя падчас ваенных дзеянняў савецка-германскай вайны. Прычым, у 1943 г. партызаны ў Парэччы забілі апошнюю ўладальніцу маёнтку сястру Рамана Алену Скірмунт. Напад адбыўся ноччу. Пасля працяглага бою (у палацы апроч уладальніцы знаходзіліся чацвёра нямецкіх леснікоў) партызаны ўварваліся ў палац. Алену Скірмунт і немцаў захапілі і пасля страшэнных здзекаў забілі. Па словах Яўгеніі Балакіравай (1930 г. нар.), Алена прыняла пакутніцкую смерць.

На пачатку 90-ых г. магілы Рамана, Баляслава і Алены Скірмунтаў у Парэччы, Марыі і Генрыка Скірмунтаў у Моладаве былі адноўлены. Галоўным ініцыятарам быў пінскі журналіст Вячаслаў Ільянкоў. Удзельнікі экспедыцыі пад кіраўніцтвам прафесара Анатоля Федарука паспрабавалі ўласнымі сіламі аднавіць зруйнаваныя родавыя могілкі Скірмунтаў у Парэччы. Але тым не менш дотык да гэтых трагічных старонак нашай гісторыі пакінуў сумнае ўражанне.

На знішчаных могілках Скірмунтаў мы знайшлі кавалак помніка са словамі з Біблііі: “Ktorzy sieją ze łzami, bedą żać z radością” (“Хто сее са слязамі, той будзе жаць з радасцю”). Хіба гэта не пра нашу гісторыю…

**Артыкул:** *Алесь Смалянчук, Алеся Сідлярэвіч*



# *150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі*

***13. Хто такі Меркур Смаленскі?***

Меркур Смаленскі - гэта легендарны герой часоў нашэсця мангола-татараў на Ўсходнюю Эўропу, які быў кананізаваны праваслаўнай царквой.

Крыніцаю звестак пра смаленскага пакутніка Меркура з'яўляецца яго жыццяпіс - помнік старажытнабеларускае літаратуры, створаны ў

XIII стагоддзі (пасля 1239 года) і вядомы сёння больш як у 80 спісах. Згодна з ім, Меркур быў «рымлянін родам, але вераю - пабожны хрысціянін грэцкага абраду».
Пад час паходу Бату-хана вялікае войска захопнікаў уварвалася ў Смаленскую зямлю. Рабуючы і забіваючы мірных людзей, пакідаючы пасля сябе папялішчы, татары рухаліся на сталіцу княства, якая вабіла іх сваім багаццем. За 24 вярсты да Смаленска яны спыніліся перад вялікім балотам, якое называлася Даўгамосцем. Частка варожага войска, перабраўшыся па дзевяцівярстовай грэблі цераз багну, рыхтавалася напасці на горад.
Паводле жыццяпісу, Меркур ўначы «прайшоў праз гарадскую браму, і прыйшоў на Доўгі Мост, і ўзяў свой меч, і ўвайшоў у стан бязбожных варвараў, і забіў іх магутнага волата». Назаўтра, калі да горада наблізіўся новы аддзел татараў, смаленцы выйшлі насустрач у поле і разбілі ворагаў. «А Батый, - апавядае "Слова пра Меркура Смаленскага", - угледзеўшы волата, забітага разам з мноствам вояў сваіх, не наважыўся падысці да горада і пабег ад Доўгага Моста, зняслаўлены Святою Багародзіцай».
Меркур склаў галаву ў крывавай сечы і быў з вялікай пашанаю пахаваны ў царкве Багародзіцы. Над дамавінаю, выконваючы волю героя, жыхары Смаленска павесілі ягоную дзіду і шчыт.
Памяць святога Меркура Смаленскага шануецца 7 снежня (24 лістапада паводле старога стылю).



## Горкая гісторыя беларускіх помнікаў культуры і архітэктуры

### Музей вайны ды краязнаўства на месцы найвялікшага палаца

Палац у вёсцы Жылічы, што ў Кіраўскім раёне, называюць адным з самых вялікіх у Беларусі. Яго плошча 4 тысячы кв. м. Палац быў пабудаваны ў 1830-я гады архітэктарам Падшчынскім, належаў роду Булгакаў. У плане ён мае выгляд літары «П». Калісьці пры ім была царква, але зараз яна не дзейнічае. Пасля рэвалюцыі ў ім знаходзілася школа для працоўнай моладзі, у 30-я гады – шпіталь. Такое ж прызначэнне абралі і немцы, калі акупіравалі гэтую тэрыторыю. У пасляваенны час тут знаходзіўся тэхнікум.



Зараз палац функцыянуе як Дом культуры: у ім знаходзіцца бібліятэка і некалькі музеяў. Наведвальнікаў цешыць, што тут аднавілі інтэр’ер, хоць некаторыя сцены пакінулі ў стылі савецкай эпохі – з выявамі Леніна. Тым не менш, ён адзін з нямногіх, хто пасля разбурэнняў застаўся аб’ектам культуры.

## Да 450 годдзя з дня нараджэння Крыштапа Мікалая Дарагастайскага

Крыштаф Мікалай Мікалаевіч МОНВІД (МАНІВІД)-ДАРАГАСТАЙСКІ (2 сакавіка 1562 — 3 жніўня 1615, Вроцлаў) — вялікалітоўскі дзяржаўны дзеяч. Доктар медыцыны. Стольнік літоўскі (1588—1590), крайчы літоўскі (1590—1592), падчашы літоўскі (1592—1597), вялікі маршалак літоўскі (1597—1615); стараста ваўкавыскі, шарашоўскі, веленьскі, мсцібаўскі, навамлынскі, дынемундскі, арандатар ялоўскі і курылоўскі.
Паходзіў аднаго з найзаможных і найстаражытных магнацкіх родаў у ВКЛ, чые продкі падчас Гарадзенскай уніі (1413) ўзялі ад палякаў герб Ляліва. Нарадзіўся ў сям'і полацкага ваяводы Мікалая Дарагастайскага і Ганны Вайнянкі. Выхоўваўся ў кальвінскай веры. Пачатковую адукацыю атрымаў дома,

потым вучыўся ў вядомай гімназіі Яна Штурма ў Страсбургу, 16.12.1575 запісаўся ў каталіцкую Фрыбурга-Брызгоўскую акадэмію. Добраахвотнікам у войску Свяшчэннай Рымскай імперыі удзельнічаў у ваенных дзеяннях у Нідэрландах. Падарожнічаў па Еўропе, найбольш упадабаў Італію. Атрымаў ганаровае грамадзянства ў Венецыі, гасцяваў у Ферары, у Балонні ў графа Пепулу. Надоўга затрымаўся ў Неапалі, горадзе вядомым пародзістымі конямі і першай у свеце вышэйшай школай коннай язды, браў урокі ў знакамітых майстроў-«кавалькатораў» П. Карацыёлы, Клаўдыя Кортэ, Петра Антоніа Ферара. З апошнім, гіполагам і надворным канюшым неапалітанскага віцэ-караля, князя дэ Асуна, у Дарагастайскага склаліся асабліва прыязныя адносіны. «…Мой вельмі зычлівы настаўнік, які не меў тады ў хрысціянскім свеце роўнага сабе ў навуцы коннай язды», такімі словамі згадаў яго Крыштаф Дарагастайскі пазней ў «Гіпіцы». Менавіта Ферара заахвоціў Крыштафа Дарагастайскага скласці дапаможнік па конегадоўлі для суайчыннікаў.




Вяртаючыся ў ВКЛ, К. Дарагастайскі быў пры імператарскім двары, дзе за ваенныя заслугі ў Нідэрландах быў уганараваны тытулам барона Свяшчэннай Рымскай імперыі. У апошнія гады праўлення С. Баторыя Крыштаф Дарагастайскі актыўна ўдзельнічаў у Лівонскай вайне ў войсках свайго бацькі, на чале ўласнай харугвы. Напэўна, тады ж зблізіўся на глебе агульных вайсковых і рэлігійных інтарэсаў з Крыштафам Радзівілам Пяруном, на той час польным гетманам літоўскім. Пасля смерці Баторыя некторы час уваходзіў у прамаскоўскую групоўку, 9.8.1587 у Акунёве пад Варшавай разам з сенатарамі ад ВКЛ вёў з маскоўскімі пасламі перамовы аб абранні на сталец Рэчы Паспалітай Фёдара Іванавіча і утварэнні уніі трох дзяржаў — ВКЛ, Маскоўскай дзяржавы і Польшчы. У 1588 атрымаў у спадчыну Ваўкавыскае староства і зрабіўся стольнікам літоўскім. У тым жа годзе ажаніўся першы раз з Соф'яй з Хадкевічаў, дачкой віленскага кашталяна Яна Гераніма Хадкевіча.

На сейме 1589 Дарагастайскага абралі дэпутатам для заключэння дагавору з імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі. На сейме 1590 ён як пасол віленскі энергічна дамагаўся заключэння міра з Масквой і пратэставаў імем ліцвінаў супраць устаноўленых падаткаў. У красавіку 1590 быў прызначаны крайчым літоўскім. Падтрымліваў габсбургскую палітыку Жыгімонта III Вазы, чым атрымаў сімпатыю двара, спрыяў шлюбу караля з Ганнай Аўстрыячкай, за што з каралеўскай ласкі ў 1592 атрымаў пасаду падчашага літоўскага. Тым часам большасць шляхты была незадаволеная хуткім шлюбам Жыгімонта III з аўстрыйскай прынцэсай, угледзеўшы ў гэтым знявагу нацыянальнага гонару. У 1592 пратэстанцкая партыя на чале з Янам Замойскім стварыла інквізіцыйную камісію па разгляду дзеянняў караля. Становішча Жыгімонта III на інквізіцыйным сейме было вельмі хісткім, але яму дапамагло ўмяшальніцтва праваслаўных магнатаў з Украіны на чале з Канстанцінам-Васілём Астрожскім. Крыштаф Дарагастайскі быў паслом на інквізіцыйным сейме, адным сярод нешматлікіх прыхільнікаў Жыгімонта III. У 1594 Валынскае ваяводства абрала яго дэпутатам на Каронны Трыбунал у Любліне.

Палітычная дзейнасць К. Дарагастайскага на карысць каралеўскага двара нікольні, аднак, не пашкодзіла ягонай папулярнасці сярод шляхты дзякуючы непахіснай пазіцыі ў абароне свабод пратэстантаў. Так, хаця на сейме 1595 ён трымаўся з каралём, аднак пісаў да Крыштафа Радзівіла Пяруна, што змагаецца пры двары за лепшае становішча для пратэстантаў у Рэчы Паспалітай. На сейме 1596 быў маршалкам пасольскай ізбы, і адразу пасля гэтага атрымаў маршалкоўства надворнае літоўскае. Магчыма, кароль хацеў далучыць кальвініста К. Дарагастайскага да каталіцтва, таму патрабаваў, каб Крыштаф Дарагастайскі суправаджаў яго ў паломніцтве да Чанстаховы. Дарагастайскі спрабаваў ухіліцца, але пад націскам двара ўсё ж паехаў. У Чанстахове абураўся культам Божай Маці, бачачы ў ім ідалапаклонства. Зрэшты, пілігрымка К. Дарагастайскаму акупілася, бо адразу пасля яе стаў вялікім маршалкам літоўскім (1597), нягледзячы на пярэчанні Святога Прастолу і каталікоў.

Наступныя некалькі гадоў Дарагастайскі прысвяціў галоўным чынам асабістым справам. Яшчэ ў 1596 памерла ягоная першая жонка, таксама кальвіністка. У 1597 вялікі маршалак узяў другі шлюб з Соф'яй з Радзівілаў, дачкой ваяводы наваградскага, удавой крайчага літоўскага Юрыя Хадкевіча. У тым самым годзе памёр бацька К. Дарагастайскага. У спадчыну яму пакінуў радавыя Дарагастаі на Валыні і Мураваную Ашмянку ў Віленскім ваяводстве (цяпер Ашмянскі раён). Неўзабаве Крыштаф Дарагастайскі атрымаў староствы шарашоўскае, велёньскае, мсцібаўскае, навамлынскае, дынемундскае, арандатарства ялоўскае і курылоўскае.

У 1600 К. Дарагастайскі імем караля мірыў два магнацкія роды — Хадкевічаў з Радзівіламі, як сваяк абодвух. У выніку адбыўся шлюб Януша Радзівіла з Соф'яй з Хадкевічаў. Але найперш займалі яго як дынемундскага старасту рамонт Дынемунда, упарадкаванне вусця Дзвіны, што прыводзіла да канфліктаў з Рыгай.

З пачатку вайны са Швецыяй К. Дарагастайскі, не прыбыў да тэатра ваенных дзеянняў, але рупіўся аб абароне Рыгі і Дынемунта, за ўласныя сродкі паслаў у Інфлянты 150 наймаваных венграў, вербаваў войска, рупіўся пра порах, гарматы, правіянт. Рыжан заклікаў да мужнасці, а абарону Дынемунда даверыў свайму сваяку Яну Астроўскаму. На варшаўскім сейме 1601 энергічна абмяркоўваў, як абараняцца ад шведаў, і вясной таго ж года на Жамойці сабраў падраздзяленне з 300 пехацінцаў і 300 вершнікаў, з якім па загадзе гетмана Радзівіла Перуна 28 мая прыбыў пад Какенгаўзен. У бітве са шведамі кіраваў правым флангам, смела ўдарыў на непрыяцеля. Як піша пра яго Севярын Урускі, «хаця быў тройчы паранены, застаўся на кані і адыграў галоўную ролю ў перамозе». Не зважаючы на раны, адразу пасля бітвы рушыў маршам пад Дынемунд, і там з дапамогай рыжан выцесніў шведаў з вусця Дзвіны. Далей абараняў Інфлянты да падыходу каронная арміі Замойскага; у 1602 таксама накіраваўся пад Дымемунд з пяхотай. У Інфлянтах набыў вялікую папулярнасць, і, сварыўся з грамадзянамі Кароны і рэзка выступаў супраць кватаравання польскага войска ў ВКЛ, нават парвінцыйны прашавіцкі сеймік прасіў у караля ўзнагародзіць К. Дарагастайскага «за значныя заслугі».



Па вайне, у сваім дзедзічным маёнтку — Мураванай Ашмянцы — К. Дарагастайскі завяршыў пачаты калісьці рукапіс «Гіпікі» і адаслаў яе, на рэцэнзіраванне даўняму прыяцелю — князю Мікалаю Радзівілу Сіротку, таксама вядомаму знаўцу коней.

Афармленне «Гіпікі» рабіў прыдворны гравёр Радзівіла Сіроткі Тамаш Макоўскі. Некаторыя ілюстрацыі Тамаш Макоўскі рабіў паводле эскізаў К. Дарагастрайскага. «Гіпіка» пабачыла свет у 1603 у Кракаў, у друкарні Анджэя Пётркоўчыка.



*Крыштаф Дарагастайскі і яго жонка Соф'я з Радзівілаў*

Падзеі рокаша Зебжыдоўскага зноў уцягнулі вялікага маршалка ў палітычную дзейнасць. На сейме 1605 ён паказаў сябе ўпартым апазіцыянерам: выступаў у сваім wotum супраць Ілжэдзмітрыя I, бараніў варшаўскую канфедэрацыю і дамагаўся яе ўмацавання выканаўчым законам (пазіцыю каталікаў назваў непатрыятычнай). Расправу са Швецыяй жадаў перанесці ў Фінляндыю і з гэтай мэтай выказваўся за будоўлю флоту, прасіў у караля дазволу на вайну і г.д. У тым жа годзе падчас лячэння ў Сілезіі наведаў Прагу і быў гасцінна прыняты імператарам Рудольфам II. Ягоны прыдворны гравёр па медзі і мастак Гілес (Эгідыюс) Садэлер (1575—1626) выканаў адзіны вядомы на сёння партрэт Крыштафа Мікалая Дарагастайскага.

На сейме 1606 вялікі маршалак літоўскі і галава пратэстантаў ВКЛ зноў бараніў варшаўскую канфедэрацыю. Падчас рокашу Зебжыдоўскага Дарагастайскі быў прыхільнікам утварэння канфедэрацыі ў ВКЛ, але сваю апазіцыйнасць трымаў ва ўмераных рамках. На сандамірскі з'езд прыбыў узброеным на чале вайсковага аддзела з намерам абараняць Рэч Паспалітую і караля і выказаў wotum вельмі «рокашава», чым зноў спадабаўся шляхце. Аднак ужо ў 1607, не ўбачыўшы вялікіх шанцаў на поспех «у гэтай смуце Рэчы Паспалітай», вылучыўся на варшаўскі сейм, дзе выступаў супраць езуітаў з-за іх умяшальніцтва ў дзяржаўныя справы і патрабаваў выгнаць іх з каралеўскага двара.

У 1609 на сейме К. Дарагастайскі ўдзельнічаў у падрыхтоўцы маскоўскага паходу Жыгімонта III, а ў кастрычніку знаходзіўся на чале асабістага коннага атрада з арміяй пад Смаленскам, дзе яму было даручана «загадваць усімі гарматамі і ўсімі шанцамі». Нягледзячы на хваробу, перад генеральным штурмам Смаленска (1611) атрымаў камандаванне часткай паўночнай аблогавай арміі. Пры ўзяцці горада адным з першых уварваўся ў крэпасць. Пасля некалькіх цяжкіх кулявых раненняў у тым жа годзе знайшоў сілы абараняць справы Віленскага кальвінісцкага збора на віленскім сейміку. У 1612—1613 спрабаваў папravіць здароўе каля гарачых крыніц пад Веронай, але хадзіў ужо толькі на мыліцах. Вярнуўшыся у Рэч Паспалітую, яшчэ займаўся справамі. У 1613 памерла ягоная жонка Соф'я, і неўзабаве Дарагастайскі ажаніўся ў трэці раз з Аляксандрай з Верашчакаў. Падтрымліваў дзейнасць кальвінскага прапаведніка Войцэха Салінарыюса, які служыў у зборы Мураванай Ашмянкі. У 1615 Дарагастайскі фінансаваў выданне ягонай «Цэнзуры…» (у 6-ці частках) — палемічнага твора супраць арыян. Шмат у якіх крыніцах сустракана, што «Цэнзура» выйшла ва ўласнай друкарні Крыштафа Дарагастайскага, заснаванай у Мураванай Ашмянцы яшчэ ягоным бацькам. Аднак факт існавання гэтай друкарні выклікае сумненні, бо, акрамя твора Салінарыюса, не захавалася ніводнай кнігі з выхаднымі дадзенымі «Ашмяны».

У ліпені 1615 К. Дарагастайскі падаўся ў Сілезію да гарачых крыніц Вармбрума. У дарозе, спыніўшыся ва Вроцлаве ў заезным доме «Пад Залатым Дрэвам» дзе 3 жніўня ён памёр. Вроцлаўскі храніст Мікалай Поль паведамляў, што ягонае цела, забальзамаванае ў меднай труне, некалькі тыдняў захоўвалася ў гэтым горадзе ў лютэранскай могільнікавай капліцы св. Эльжбеты, адкуль 17 верасня яго перавезлі ў Мураваную Ашмянку. Урачыстае пахаванне з казаннем пастара Яна Зыгровіюша адбылося тамсама ў лютым наступнага года.

У шлюбе з Соф'яй з Радзівілаў К. Дарагастайскі меў дачку Дароту і сына Уладзіслава (1611—1638), які стаў чашнікам ВКЛ, пакінуў пасля сябе славу апекуна навук, заступніка пратэстантаў і праваслаўных

вернікаў. На дачцэ Уладзіслава Соф'і магнацкі род Дарагастайскіх згас. У Мураванай Ашмянцы не засталося магіл яе колішніх уладальнікаў. Знік кальвінскі збор. Ад гаспадарскага дома, перабудаванага ў сяр. 19 ст. пад палац, часткова захаваліся сутарэнне, цокаль і сцены першага паверху.

## Творчасць

Асноўная літаратурная праца Крыштаф Мікалай Дарагастайскі — «Гіпіка» (1603, Кракаў, друкарня Анджэя Пётркоўчыка), складаецца з чатырох частак (кніг). Датуль у Рэчы Паспалітай не было ніводнага дапаможніка па конегадоўлі і коннай яздзе. Кніга напісана на польскай мове, ужываючы лацінскія цытаты і італьянскія тэрміны.

У першай распавядаецца пра міфалагізаваную гісторыю каня і коннай язды, пра конскія масці і прыкметы, пра падбор вытворнікаў і вырошчванне племяннога маладняка. Кніга другая прысвечана галоўным чынам прыручэнню і пачаткам выездкі маладых жарэбчыкаў. У трэцяй паказаны ўзоры муштукоў і цугляў з апісаннем іх уздзеяння. Кніга чацвёртая — «Гіпіятрыя» — ветэрынарны лячэбнік.

У значнай частцы «Гіпіка» — кампіляцыя з трактатаў настаўнікаў ужо згаданай Неапалітанскай вышэйшай школы коннай язды. К. Дарагастайскі таксама праштудзіраваў велізарны аб'ём самай рознай тагачаснай навуковай літаратуры і таму свабодна цытаваў у «Гіпіцы» як антычных аўтараў — Ксенафонта, Галена, Арыстоцеля і інш., так і амаль сваіх сучаснікаў — Іаахіма Камерарыя, Джыралама Кардана, Жана Фернэля і інш. Таксама К. Дарагастайскі падзяліўся ў «Гіпіцы» ўласным вопытам як падарожніка, конназаводчыка, лекара, прыродазнаўца, воіна наконт коней. «Гіпіку» ўпрыгожваюць вершы Вергілія і любімага К. Дарагастайскім паэта Марцэла ў арыгінале — на лаціне; у большасці выпадкаў Крыштаф Дарагастайскі даў тут жа ўласныя пераклады іх на польскую мову. Пра свае медыцынскія вопыты аўтар расказаў у Кнізе чацвёртай. На старонках «Гіпікі» згадана значная колькасць лекавых раслін і хімічных рэчываў. Аўтар задумаў «Гіпіку» як навукова-папулярнае выданне, выклаў яе жывой мовай і з гумарам. Яна змяшчае нямала цікавых выпадкаў, жартаў, прыказак і прымавак, каларытных дэталей свайго часу. Зразумела, не абышлося тут без забабонаў і памылковых суджэнняў. Упершыню выклаўшы на паперы тое, што ўсім, здавалася б, было знаёма з дзяцінства, аўтар прадбачыў кпіны ганарлівых невукаў. Але быў упэўнены, што праца ягоная паслужыць на карысць многім. І сапраўды, «Гіпіка» была настольнай кнігай у адукаваных гаспадароў. Яе папулярнасці садзейнічала прыдворная мода на манежную язду і конныя каруселі, якая дайшла да нашага краю ў 18 ст. Перавыдавалася «Гіпіка» 5 разоў: у 1620 (Познань), 1647, каля 1700 і 1730, 1861 (усе 3 выдання ў Кракаве).

У перакладзе на беларускую мову «Гіпіка» выйшла ў 2007, пераклад рабіўся з мікрафільмаў — копіі першага выдання 1603, якія захоўваюцца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, зверка рабілася з выдання 1730, якое захоўваецца тамсама, і з апошнім выданнем 1861.

Апроч «Гіпікі», К. Дарагастайскі напісаў яшчэ некалькі літаратурных твораў, якія ў большасці засталіся ў рукапісах. Вучнем гімназіі ў Страсбургу ён сачыніў некалькі эпіграм у абарону свайго апекуна ў замежжы Яна Гаслера. Стараючыся атрымаць званне магістра філасофіі, Гаслер удаўся ў публічны дыспут з прапаведнікам, рэктарам Страсбургскай акадэміі. Дыскусія вакол пытання, ці даследаваў Арыстоцель таямніцу св. Тройцы (так сцвярджаў Гаслер), перарадзілася ў пазанавуковую спрэчку. Адным з аргументаў ягоных апанентаў было накладанне кары — дзесяць дзён карцэра. Гаслер збег у Фрыбург, а К. Дарагастайскі, помсцячы за настаўніка, прыбіваў эпіграмы супраць ягоных непрыяцеляў да дзвярэй Страсбургскай акадэміі. Пасля атрымання звання доктара медыцыны ў Фрыбургу К. Дарагастайскі выдаў друкаваны зборнік вершаў, прысвечаных барону Дзісбаху — вядомаму мецэнату, у т.л. Яна Гаслера. Фрагменты гэтых твораў захаваліся ў зборах рукапісаў Бібліятэкі Асалінскіх у Вроцлаве. Аб аўтарстве К. Дарагастайскага сведчыць ягоны подпіс пад манускрыптамі, азагалоўленымі «Carmina…». Гэта не цэласны збор, розныя празаічныя тэксты пераплятаюцца з вершаванымі, змешчаны тамсама творы «Лямант РП маці…» і «Archidducis

Maximiliani…». 9-старонкавы рукапіс у вельмі дрэнным стане захаваўся толькі ў фрагментах.
Свае сілы спрабаваў Крыштаф Мікалай таксама ў лацінскай і грэчаскай мовах. Пераклаў «Tetrastychon», прыпісваемы Пталемею (не захаваўся). За некалькі дзён да смерці Стэфана Баторыя К. Дарагастайскі напісаў «Prognosticon…» аб прычынах ягонай хваробы. У «Асалінэуме» захаваліся таксама «Эпітафія на смерць бацькі майго Мікалая Дарагастайскага» і ліст Крыштафа Дарагастайскага да караля Жыгімонта Вазы.
Бібліятэка Чартарыскіх у Кракаве мае «інструкцыі» да жонкі Соф'і з Радзівілаў: «Парадак…» (1608) і «Распараджэнне…» (1611). Эпісталярная спадчына вялікага маршалка літоўскага — лісты да Радзівілаў, Яна Караля Хадкевіча, Яна Замойскага, Жыгімонта Вазы, князя Ежы Чартарыскага, кальвінскага дзеяча Пятра Гарайскага і іншых сучаснікаў — захоўваецца ў некалькіх польскіх буйных бібліятэках і архівах: у Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве, у Архіве Галоўным Актаў Даўніх, у Бібліятэцы ардынацыі Замойскай, Бібліятэцы Польскай Акадэміі навук, у Архівах Млыноўскіх Хадкевічаў. Гэтыя лісты з'яўляюцца цэнным сведчаннем эпохі, дазваляюць пазнаць характар Дарагастайскага, асаблівасці тагачаснай мовы.



# *Блог В. Ю. Ластоўскага*



***Людзьмі трэба звацца!***
***Людзьмі беларускімі!***

## ПРА ВЕРУ БЕЛАРУСА

***— Якая вера у беларуса?***

— Беларусы усе хрысьціянскае веры, частка іх праваслаўныя, а частка іх каталікі. Даўней многа было сярод беларусаў вуніятаў, прыняўшых царкоўную еднасць, гэта значыць, яны маліліся паводле усходняга абраду, але галавой сваіх сьвятыняў уважалі Папу Рымскага, а не патрыярха Канстантынопальскага. Калі беларусы папалі пад уладу Расеі, маскоўскі урад скасаваў вунію. Той-жа маскоўскі урад адначасна падпарадкаваў сабе Праваслаўную Царкву на Беларусі і праз яе усімі сіламі стараўся русіфікаваць беларусаў. Каталіцкі Касьцёл на Беларусі падпаў ізноў пад польскія уплывы і праз яго палякі усімі сіламі стараліся беларусаў спалянізаваць. Такім чынам, чужынцы палянізавалі, русіфікавалі і дзялілі беларусаў на два варожыя рэлігійныя лягэры. Дзеля таго цяпер беларусы павінны старацца, каб Праваслаўная Царква і Каталіцкі Касьцёл на Беларусі не служылі чужым расейскім і польскім інтарэсам, а каб былі яны творчым дзейнікам для беларускага народу, гэта значыць, трэба, каб у сьвятынях навука, рэлігійныя сьпевы адбываліся пабеларуску, каб пашыралася там любоў да сваяго беларускага краю, беларускае мовы, беларускіх звычаяў, беларускае культуры, каб у сьвятынях заахвочвалі беларусаў да маральнага жыцьця і плённае працы на карысьць беларускага народу. Пры гэтым трэба ведаць, што вера, ці як кажуць, рэлігія, не перашкаджае людзям захоўваць народную еднасьць. Так прыкладам сярод немцаў ёсьць каталікі, лютаране, кальвіны і яны твораць адзін нямецкі народ. Беларусы праваслаўныя і каталікі таксама твораць адзін беларускі народ.

***— Ці вера можа азначаць народнасьцьць?***

— Не, вера што іншае, а народнасьць, нацыянальнасьць што іншае, і таму вера ня можа азначаць народнасьці. Прыкладам, немцы ёсьць каталікі, лютэране і кальвіны, аднак яны становяць асобны народ, нямецкі. Каталіцкай веры італьяпцы, французы, ёсьць ангельцы, немцы, беларусы, але гэта розныя, чужыя сабе народы. Усе беларусы, ці яны праваслаўныя, ці каталікі, роўныя дзеці аднае маткі-Беларусі. Таму трэба нам жыць між собку ў згодзе і узаемна шанаваць адну і другую веру, бо мы усе радзіліся беларусамі, а праваслаўнымі, ці каталікамі — сталіся пасьля хрысьцін. Падобна і партыйнымі людзі становяцца куды пазьней, але ўсё гэта не перашкаджае нам быць добрымі беларусамі і разам стаяць за народную волю, за лепшую будучыню усяго нашага народу і краю.

**Власт**

# *Гістарычны каляндар*

Галоўныя падзеі лютага

**2 лютага 1838**

**Нарадзіўся Кастусь Каліноўскі**

Кастусь Каліноўскі (1838 - 1864) - першы беларускі рэвалюцыйны дэмакрат, мысліцель, паэт, публіцыст, кіраўнік паўстання 1863 - 1864 гг. на Беларусі і ў Літве.

**4 лютага 1746**

**Нарадзіўся Тадэвуш Касцюшка**

Касцюшка Андрэй Тадэвуш Банавентура - палітычны і ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай, кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. Удзельнік Вайны за незалежнасць Паўночнай Амерыцы.

**4 лютага 1808**

**Нарадзіўся Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч**

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч выдатны пісьменнік, драматург, грамадскі дзеяч. Першымі вядомымі нам творамі пісьменніка сталі п'есы "Рэкруцкі яўрэйскі набор", 'Спаборніцтва музыкантаў", "Чарадзейная вада".

**5 лютага**

**На Беларусі ўшаноўваюць Агату**

У гэты дзень сьвяцілі соль і хлеб. Казалі: "Хлеб сьвятой Агаты ня пусьціць бяды да хаты", а таксама: "Соль сьвятой Агаты бароніць ад агню хаты".

**7 лютага 1892**

**Нарадзіўся Антон Сокал-Кутылоўскі**

Антон Сокал-Кутылоўскі (1892-1983), беларускі нацыянальны дзяяч, вайсковец. Ураджэнец хутару Красная Горка Лунінецкага павету. Паходзіць са зьбяднелай беларускай шляхты. Скончыў Пецярбурскі ўнівэрсытэт (1914). Удзельнік Першае сусьветнае вайны.

**10 лютага 1883**

**Нарадзіўся Станіслаў Булак-Балаховіч**

Булак-Балаховіч Станіслаў Нікадзімавіч нарадзіўся каля 1875 г. на Ковеншчыне ў сям'і фальварковага арандатара. Зьвестак пра яго дзяцінства і юнацтва няма.

**11 лютага 1807**

**Нарадзіўся Напалеон Орда**

Напалеон Орда нарадзіўся 11 лютага 1807 г. у маёнтку Варацэвічы, што стаяў на ўскраіне вёскі з такой жа назвай непадалёку ад Пінска. Адукацыю атрымаў у Парыжы і ў Віленскім універсітэце. Яшчэ студэнтам Орда ўдзельнічаў у антырасейскім паўстанні.

**12 лютага 1839**

**Адбыўся Полацкі царкоўны сабор**

12 лютага 1839 г. адбыўся Полацкі царкоўны сабор, на якім "аднадушна" падабраныя загадзя ўладай ўдзельнікі прынялі "саборны акт" аб далучэньні уніяцкай царквы да Рускай праваслаўнай і накіравалі прашэньне аб гэтым Мікалаю І.

**16 лютага 1895**

**Нарадзіўся Францішак Кушаль**

Кушаль Францішак Вінцэнтаў (1895-1968), беларускі нацыянальны дзяяч, вайсковец. Удзельнік Першае сусветнае вайны на Заходнім фронце, штабс-капітан. У 1919-1921 гг. у складзе Беларускай вайсковай камісіі. У 1939 г. інтэрніраваны ў СССР.

**27 лютага 1734**

**Нарадзіўся Караль (Пане Каханку) Станіслаў Радзівіл**

Караль Станіслаў па мянушцы Пане Каханку Х ардынат нясвіжскі нарадзіўся 27 лютага ў Нясвіжы разам з братам-блізняткам Янушам, які рана памёр. Яго бацькам быў Міхал Казімір Рыбанька, а маткаю - знакамітая Францішка Уршуля з Вішнявецкіх.

**29 лютага 1468**

**Выданне Судзебніка Казіміра Ягелончыка**

У 1468 г. быў выданы (судовы) ліст вялікага князя Казімера. У ім было галоўна крымінальнае права й працэс. Гэты ліст быў апрацаваны пашыраным пленумам Рады Вялікага Княства Літоўскага.

**29 лютага 1768**

**Утварэнне Барскай канфедэрацыі**

Барская канфедэрацыя ўяўляла сабой аб‘яднанне шляхты, дзеячоў царквы і кіраўніцтва дзяржавы для барацьбы супраць уплыву Расеі на каралеўскі ўрад, а таксама дзеля захавання шляхецкіх вольнасцяў. У ліку кіраўнікоў гэтай патрыятычнай...


**Заснавальнік:** Студэнцкая гістарычная суполка “Аматары Беларускай Гісторыі імя В. Ю. Ластоўскага”
**Галоўны рэдактар:** Дамарад В. А.
**Кантактныя тэлефоны: (029) 732-75-93**
**E-mail:** Recoba20.bel@mail.ru . **Інтэрнэт:** www.amataribelhist.gumshpora.ru
**Наклад:** 50 асобнікаў

# *1150 гадоў з часу першага ўпамінання г. Полацка (862)*

